**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 46 (762) 13 лістапада 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## АНОНС:
**Крывавае поле ля Радзюкоў"**
Чытайце ў наступных нумарах "ВГ".



**На гэтым полі, на ўскрайку Радзюкоў, пры дарозе Глыбокае-Шаркоўшчына пахаваныя некалькі дзясяткаў уцекачоў з Шаркоўшчынскага гета. Яны сыходзілі палямі і дарогамі ў бок Глыбокага. Нечакана з'явілася машына з нямецкімі салдатамі, якія ўсталявалі на пагорку кулямёт і пачалі забіваць усіх, хто трапляў пад прыцэл. А потым хадзілі па полі і дабівалі яшчэ жывых... На здымку: Ліл'яна Іосіфаўна Карачун (у дзявоцтве Носка) паказвае журналістам "ВГ" няўлічанае пахаванне ахвяраў Халакосту.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Талачынскі раён

# Хабарніцтва – справа ўжо звыклая

■ ННВ

**Хірург Талачынскай раённай бальніцы браў хабару са сваіх землякоў выдачай фіктыўных медыцынскіх дакументаў - даведак аб часовай непрацаздольнасці.**

Урач-хабарнік быў абвінавачаны супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Талачынскага РАУС у пачатку 2014 года. Падчас аператыўных мерапрыемстваў было выяўлена чатыры факты атрымання хабараў на агульную суму каля 3 000 000 рублёў. Па выяўленых эпізодах злачыннай дзейнасці ў дачыненні да медыка былі распачатыя крымінальныя справы па частках 1, 2 артыкула 430 КК (атрыманне хабару), а таксама па частцы 1 артыкула 427 КК (службовы падлог).

У кастрычніку судом Талачынскага раёна хірург па ўсіх эпізодах прызнаны вінаватым і асуджаны да адбывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на два гады. Прысуд уступіў у законную сілу. Зараз былы лекар ужо знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, паведамляе сайт УУС Віцебскага аблвыканкама са спасылкай на матэрыялы УБЭП.

Нагадаем, што летам 2014 быў асуджаны ўрач-эндаскапіст, які за плату афармляў фіктыўныя заключэнні пэўных эндаскапічных даследаванняў прызыўнікам ваенных камісарыятаў на тэрыторыі Віцебскай вобласці, якія з'яўляліся падставай для вынясення медыцынскімі камісіямі ваенных камісарыятаў заключэнняў аб непрыдатнасці да службы ў войску.

## Полацкі раён

# На Полаччыне з'явіліся махляры

■ Хімік інфо

**Звесткі пра тое, што на Полаччыне аб'явіліся махляры, пачалі распаўсюджвацца ў сацыяльных сетках.**

У паштовыя скрыні пачалі раскідваць паперкі з прапановамі падпрацоўкі. У аб'яве пазначаны нумар тэлефона 8 902 2114242, падпісана, што тэлефанаваць трэба толькі са стацыянарнага тэлефона. Пра тое, што выклік будзе дорага аплочваца, нідзе не сказана. Затое прывабных варыянтаў працы прапануецца нямала: набор тэксту, распаўсюджванне ўлётак, шыццё і вязанне дома, зборка асадак і многае іншае.

Гэта не першы выпадак такога «разводу» на грошы. Навіна пра нумар, які за хвіліну патрабуе 51000 рублёў і не папярэджвае пра гэта, прайшла ў Гомелі, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах Беларусі.

«Белтэлекам» папярэджвае, што абаненты павінны быць уважлівымі і асцярожнымі пры выкарыстанні платных даведачна-інфармацыйных службаў.

Памятайце, што пры атрыманні заманлівай інфармацыі заўсёды лепш напачатку пашукаць пра яе звесткі ў інтэрнэце, чым пасля!

## Віцебская вобласць

# Пад Віцебскам робяць экалагічную цэглу

■ БЕЛТА

**У гарадскім пасёлку Руба пад Віцебскам адкрылася прадпрыемства па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў па інавацыйнай тэхналогіі, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Віцебскім аблвыканкаме.**

Прадпрыемства па вытворчасці гіперпрасованай цэглы і пліткі ТАА «РуБелЭко» створана ў выніку рэалізацыі інвестыцыйнага дагавора паміж замежным інвестарам і Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва Беларусі. Аб'ём інвестыцый у гэты праект склаў больш $ 5 млн, у тым ліку звыш $ 1 млн прамых замежных інвестыцый.

У гаспадарчы абарот ўцягнутыя некалькі невыкарыстоўваемых капітальных будынкаў вытворчага прызначэння. Вытворчая магутнасць новага прадпрыемства складае 15 млн умоўнай цэглы ў год. Каля 80% прадукцыі прадпрыемства будзе рэалізоўвацца на экспарт. Асноўны арыенцір накіраваны на расійскі рынак, таксама ў бліжэйшы час плануюцца адгрузкі ў краіны Балтыі. На ўнутраным рынку прадукцыя канкуруе з імпартнай клінкернай цэглай, што спрыяльна адаб'ецца на імпартазамяшчэнні.

ТАА «РуБелЭко» выпускае абліцавальную цэглу, фасадную і цокальную плітку. У якасці сыравіны выкарыстоўваюцца нетаварныя адсевы, якія ўзнікаюць у выніку вытворчасці даламітавай мукі і друзу ААТ «Даламіт». Прадпрыемства працуе па тэхналогіі гіперпрэсавання - гэта спосаб вытворчасці цэглы без апальвання, які дазваляе стварыць будаўнічы прадукт на аснове прэсавання пад высокім ціскам здробненых карбанатных парод з даданнем цэменту, вады і мінеральных фарбавальнікаў.

На выхадзе атрымліваецца экалагічны прадукт, які адрозніваецца строгай геаметрычнай дакладнасцю і эстэтычнымі якасцямі. На заводзе ўсталяваная тэхналагічная лінія з высокай ступенню аўтаматызацыі ад вядучага вытворцы гіперпрэсаванага абсталявання, што дазваляе звесці да мінімуму ўплыў чалавечага фактару.

## Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 13.11.14 | | | | Пятніца 14.11.14 | | | | Субота 15.11.14 | | | | Нядзеля 16.11.14 | | | | Пн.17.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +3 | +5 | +4 | +3 | +3 | +5 | +4 | +3 | +3 | +5 | +3 | +2 | +2 | +4 | +2 | +1 | +1 | +3 |
| Ціск | 752 | 752 | 753 | 754 | 756 | 756 | 757 | 757 | 756 | 756 | 756 | 756 | 756 | 755 | 756 | 755 | 755 | 755 | 756 |
| Вільготнасць | 93 | 95 | 85 | 95 | 94 | 99 | 87 | 91 | 92 | 95 | 87 | 91 | 90 | 93 | 81 | 90 | 92 | 96 | 81 |
| Вецер м/сек | 2 У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пн-У | 4 Пн-У | 4 У | 4 У | 4 Пн-У | 3 У | 3 Пд-У | 4 У | 5 У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У |

# Аб самым надзённым

## ЦІ ВЫРАТУЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КАЗНУ НАФТАВЫЯ ПОШЛІНЫ

**Галоўнае пытанне, наколькі бюджэт будзе выкананы па даходах і па расходах. Бюджэт павінен быць рэальным. Калі ён не рэальны, то ўзнікаюць праблемы: трэба секвесціраваць нейкія артыкулы выдаткаў, - падкрэслівае эксперт.**

На 2015 год урад плануе сфармаваць бюджэт з прафіцытам. Пра гэта заявіў намеснік міністра фінансаў Беларусі Максім Ермаловіч. Паводле яго слоў, прафіцытны бюджэт удасца сфармаваць дзякуючы экспартным пошлінам на нафтапрадукты, якія цалкам застануцца ў беларускай казне.

*Ці выратуюць беларускую казну нафтавыя пошліны*

- Ад 1,5 да 2 мільярдаў долараў мы разлічваем накіраваць на пагашэнне знешніх дзяржаўных абавязацельстваў у 2015 годзе за кошт гэтага інструмента, - адзначыў Максім Ермаловіч.

Пра тое наколькі рэальныя планы ўрада піша «Заўтра тваёй краіны».

*Надзеі на нафтавыя пошліны могуць не апраўдацца*

Дырэктар па даследаваннях Ліберальнага клуба Яўген Прэйгерман нагадвае, што беларускае кіраўніцтва часта дае ўстаноўку на прафіцытны ці хаця б бездэфіцытны бюджэт.

- Часам гэтая ўстаноўка выконваецца. Да прыкладу, на бягучы момант бюджэт у нашай краіне прафіцытны. Таму што па некаторых артыкулах расходаў сціснуліся і зэканомілі, - падкрэслівае эксперт.

Аднак, на яго думку, у наступным годзе, планы ўрада могуць абваліцца. І справа не толькі ў эканамічных праблемах.

- У год прэзідэнцкіх выбараў усё будзе залежаць ад таго, якая будзе сацыяльна-эканамічная і палітычная абстаноўка, наколькі прэзідэнт адчуе, ці хапае яму рэйтынгу і без дадатковых накачак, - лічыць аналітык.

Паводле яго слоў, калі Аляксандр Лукашэнка палічыць, што перад выбарамі будзе неабходна раздаць бонусы электарату, то выканаць бюджэт будзе складаней. Да таго ж, як адзначае эксперт, агульная сітуацыя ў эканоміцы пагаршаецца, і напаўняць будзе складаней, чым у папярэднія гады.

Яўген Прэйгерман мяркуе, што надзеі ўрада на нафтавыя пошліны, якія застануцца ў беларускім бюджэце, таксама могуць не апраўдацца.

- Адлічэнні, якія Расія абяцала пакінуць нам за экспарт нафтапрадуктаў, пойдуць на пагашэнне знешняй запазычанасці. Але іх адвочана будзе недастаткова, каб пагасіць усе знешнія даўгі. Ды і па падатковым манеўру наогул незразумела, чым гэта ўсё адгукнецца Беларусі. Так што ўсё будзе складаней, чым плануе ўрад. Але, калі палітычная матывацыя не будзе замінаць эканамічнай мэтазгоднасці, то прафіцытны бюджэт можа быць і ўдасца выканаць, - прагназуе Яўген Прэйгерман.

*Ці напоўніць бюджэт інфляцыя?*

Эканаміст Леў Марголін адзначае, што ў Беларусі няма дакладнага кантролю за выкананнем бюджэтных паказчыкаў.

- Чыноўнікамі складаецца праект даходаў і выдаткаў. Калі не хапае даходаў, тады скарачаюць выдаткі. Калі нельга скараціць выдаткі, тады павялічваюць даходы. Прычым часцяком беспадстаўна, на паперы. На паперы ўсё выглядае выдатна. Дэпутаты прагаласавалі за бюджэт, а далей хоць трава не расці, - адзначае эканаміст.

На яго думку, не мае ніякага значэння дэфіцытны бюджэт або прафіцытны.

- Галоўнае пытанне, наколькі бюджэт будзе выкананы па даходах і па расходах. Бюджэт павінен быць рэальным. Калі ён не рэальны, то ўзнікаюць праблемы: трэба секвесціраваць нейкія артыкулы выдаткаў, - падкрэслівае эксперт.

Ён лічыць, што планы ўрада сфармаваць прафіцытны бюджэт нерэальныя.

- Хоць ёсць адно лякарства, якім стала карыстацца наша ўлада. Гэта - інфляцыя. Прымаючы заведама нерэальны бюджэт, плануецца, што інфляцыя будзе 8-10%. А ў выніку інфляцыя дасягае 20%. За кошт гэтага бюджэт атрымлівае дадатковыя даходы, - тлумачыць эканаміст.

Эксперт мяркуе, што бюджэтныя разлікі ўрада могуць быць падкарэктаваныя.

- Не сакрэт, што часта складаюцца планы бюджэту, якія прэзідэнт адпраўляе на дапрацоўку, бо такія лічбы яго не задавальняюць, а тым больш у год выбараў. Усе выдатна ведаюць, як змагацца з інфляцыяй. Але ў мяне такое падазрэнне, што яе падтрымліваюць спецыяльна для таго, каб затыкаць дзіркі ў бюджэце, - лічыць Леў Марголін.

*«Заўтра тваёй краіны».*

## Дзень за днём

**Дзяржбюджэт на 2015-ы нават з прафіцытам дазволіць Беларусі пражыць год даволі сціпла, насельніцтва практычна не адчуе росту дабрабыту. Пачаў распрацоўвацца новы механізм дзяржаўнай падтрымкі прадпрыемстваў, каб рэсурсы не траціліся ўпустую. У пачатку месяца даўгі па зарплаце перавысілі 80 млрд. рублёў. Дзяржава вырашыла прымусіць працаваць амаль 400 тысяч чалавек, якія нідзе не працаўладкаваны. У Беларусі падаражэлі адразу 78 відаў цыгарэт і паслугі ДАІ. На адну арэндную кватэру ў Мінску прэтэндуе ўжо каля 400-х сем'яў. Беларусы сталі меней разводзіцца, цяпер распадаецца толькі 40 % шлюбаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Цэнтрабанк РФ вымушана спыніў інтэрвенцыі на валютным рынку, патрачаных 29 мільярдаў долараў не хапіла для падтрымкі курсу расійскага рубля, які абваліўся ўжо на 40 %.

**Украіна.** Упершыню ў гісторыі ў парламенце не будзе болей камуністаў, у Вярхоўную Раду на датэрміновых выбарах перамаглі партыі праеўрапейскай арыентацыі.

**Бельгія.** Еўрасаюз адмовіўся прызнаць вынікі "выбараў" у самаабвешчаных ДНР і ЛНР, як неадпавядаючых Мінскім пагадненням і Канстытуцыі Украіны, у Расіі іншая пазіцыя.

**Бразілія.** Дзеючы прэзідэнт-сацыяліст Дзілма Русеф захавала на другі тэрмін прэзідэнцкае крэсла, у другім туры выбараў яна апярэдзіла правацэнтрыста Эсія Невеса (48 % галасоў).

**Літва.** Аб'яднаная Еўропа, як заявіла прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ, ніколі не пагодзіцца з акупацыяй Крыма агрэсарам Расіяй, жыццё яшчэ добра правучыць рускіх за нахабства.

**Польшча.** У сувязі з украінскім крызісам, як паведаміў віцэ-прэм'ер і міністр абароны Томаш Семоняк, да 2017 года краіна 90 % сіл польскай арміі накіруе да ўсходняй мяжы.

**Расія.** У "валдайскай" прамове У. Пуцін назваў асноўным знешнім ворагам ЗША, аднак заявіў аб падтрымцы тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны і гатоўнасці да кампрамісу там.

**Польшча.** Намеснік главы МЗС Катажына Касперчык паведаміла, што ў маі 2015 года ў Рызе можа быць падпісана дамова аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС.

**Англія.** З-за пагаршэння адносін з Масквой брытанская карпарацыя ВР адмовілася ўзводзіць дадатковы газапravод з Германіі "Паўночнага патоку" ў Галандыю і Англію.

**Расія.** Вядомы пісьменнік-сатырык В. Шэндэровіч заявіў, што як толькі Пуцін страціць сваю пасаду, то яго будуць судзіць па цяжкіх артыкулах за буйную карупцыю ва ўладзе.

**Венгрыя.** У цэнтры сталіцы Будапешта прайшла шматтысячная акцыя пратэсту супраць увядзення з 2015 года падатку на Інтэрнэт, так урад вырашае бюджэтныя праблемы.

**Іран.** У турме Тэгерана павесілі 26-гадовую Рэйхан Джаббары, асуджаную за забойства нажом мужчыны, былога работніка спецслужб, які хацеў яе згвалтаваць.

**Расія.** На фоне эканамічных цяжкасцей, росту цэн упершыню з пачатку года электаральны рэйтынг падтрымкі Пуціна рэзка знізіўся адразу на 8 % і апусціўся да 49 %.

**Японія.** Вучоныя інжынеры К. Ісіра і В. Ёшызакі распрацавалі ўнікальнага робата, які можа хадзіць і яшчэ трансфармавацца ў аўтамабіль з хуткасцю язды 10 кіламетраў у гадзіну.

**ААЭ.** У хакей за беларускую прэзідэнцкую каманду пачаў гуляць і малодшы пазашлюбны сын А. Лукашэнкі Коля, які забіў нават 2 шайбы ў вароты ветэранаў Арабскіх Эміратаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Эксперт па ядзернай энергетыцы М. Шнайдэр заявіў, што складаная эканамічная сітуацыя ў РФ не дазволіць Беларусі ў тэрмін пабудаваць мясцовую АЭС.

**Магілёў.** Глава вобласці П. Руднік загадаў да 1 снежня ў раёнах і гарадах вобласці выявіць усіх непрацуючых грамадзян і паставіць на асаблівы ўлік, прапанаваць ім вакансіі працы.

**Бабруйск.** Некалькі высокакваліфікаваных рабочых, звольненых з завода трактарных дэталяў і агрэгатаў толькі за членства ў свабодным прафсаюзе, аб'явілі галадоўку.

**Мінск.** Суд прыгаварыў грамадзяніна РФ, экс-дырэктара санаторыя "Беларусь" у Сочы і яго падзельнікаў да 6-9 гадоў турмы за буйныя крадзяжы сродкаў падчас рэканструкцыі.

**Кіраўск.** У выніку пажару па нявысветленых прычынах на мясцовым льнозаводзе полымя знішчыла амаль адну тысячу тон льнотрасты новага ўраджаю, людзі не пацярпелі.

**Мінск.** Эканаміст даследчага цэнтра BEROC Дзмітрый Крук заявіў, што дзяржаўны доўг Беларусі будзе расці мінімум 3-4 гады, ураду зноў патрэбны новыя крэдыты МВФ.

**Баранавічы.** Прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч наведаў "Баранавічыдрэў" і паведаміў калектыву аб перадачы прадпрыемства прыватнаму інвестару.

**Мінск.** Прэзідэнт прызначыў новым кіраўніком сталіцы былога міністра ЖКГ Андрэя Шорца, сваім прэс-сакратаром – 30-гадовую тэлевядучую і артыстку Наталлю Эйсмант.

**Магілёў.** Услед за каўбасамі Аршанскага мясакансервавага камбіната расійскія ветэрынары знайшлі нібыта геном АЧС у палове проб прадукцыі мясцовага і мінскага мясакамбінатаў.

**Гомель.** Члены бандыцкай злачыннай групоўкі "пажарнікаў" адседзелі свае турэмныя тэрміны і папаліся зноў тройчы на злачынных дзеяннях у горадзе і ў суседняй Рэчыцы.

**Мінск.** Сапраўдная беларусізацыя пойдзе шпарка тады, як заявіў шэф-рэдактар газеты "Наша ніва" Андрэй Дынько, калі на роднай мове загавораць вышэйшыя чыноўнікі.

**Салігорск.** Міліцыя затрымала трох старшакласнікаў і навучэнца сталічнага каледжа, якія ўгналі ноччу МАЗ са стаянкі і пашкодзілі яшчэ "Сітраен", каб толькі пакатацца.

**Камянец.** Праз тыдзень пасля атрымання вадзіцельскіх правоў 25-гадовы жыхар раённага цэнтра раніцай на лясной дарозе ўдарыўся на "Сітраене C4" у дрэва і загінуў.

**Мінск.** Без тлумачэння прычын з выставы ў сталіцы знялі карціну вядомага айчыннага мастака Аляксея Марачкіна, прысвечаную расійскай агрэсіі ва Украіне.

**Брэст.** На мэтэастанцыі "Палеская" зафіксавалі новы айчынны тэмпературны рэкорд для лістапада, там тэмпература паветра пасля маразоў прагрэлася да 19 градусаў цяпла.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З рабочым візітам вобласць наведаў старшыня праўлення Польска-беларускай гандлёва-прамысловай палаты Казімеж Здуноўскі, падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве

**Лепель.** Новы швейны цэх расійскай фірмы "Валдзіс" па выпуску сінтэпону пачаў пашырэнне вытворчасці па пашыву спецадзення з уцяпленнем у дзве змены.

**Паставы.** За вялізныя даўгі судовыя выканаўцы апісалі ўсю жывёлу на фермах і комплексах двух буйных гаспадарак раёна "Камайскі-агра" і "Дунілавічы-агра".

**Лёзна.** Газета "СБ. Беларусь сегодня" высветліла, што ў раёне з насельніцтвам 16 тысяч чалавек не працуе тысяча, з іх 600-700 ездзяць на заробкі ў Расію, гарады Беларусі.

**Віцебск.** Услед за партыяй кухонных выцяжак з канвеера праблемнага тэлезавода "Віцязь" сышла яшчэ адна партыя бытавой тэхнікі, 3 тысячы электрычных мясарубак маркі "Holt".

**Расоны.** З возера Прабольна вадалазы дасталі целы двух патанулых рыбакоў з Наваполацка, яшчэ двое мужчын выплылі да берага, калі перакулілася іх лодка.

**Віцебск.** Студэнтка 4-га курса тэхналагічнага ўніверсітэта Анастасія Лейкіна стала пераможцам 3-га сезона музычнага конкурсу тэлеканала СТБ "Спяваючыя гарады".

**Глыбокае.** У гарадскім Доме культуры ва ўрачыстай абстаноўцы прайшоў Дзень прызыўніка з удзелам прадстаўнікоў воінскіх часцей 52287 і 25888.

**Полацк.** На 72-м годзе жыцця пасля трэцяга інфаркту памёр адзін з самых вядомых людзей Полаччыны, выдатны фотамастак, турыст і краязнаўца Эрнст Цецярэўскі.

**Докшыцы.** На прапацу 4-х дзён у прыгажэйшых мясцінах Бярэзінскага біясфернага запаведніка працавала творчая група Белтэлерадыёкампаніі, фільм будзе з 2-х серый.

**Лепель.** У новым мікрараёне райцэнтра здалі ў эксплуатацыю новы 100-кватэрны жылы дом, да навагодніх свят ключы ад 40 кватэр атрымаюць і жыхары арэнднага дома.

**Гарадок.** У райцэнтры пабываў рэйс-дырэктар Кубкаў свету Міжнароднага саюза біятланістаў (IBU) Нунар Борут і даў высокую ацэнку новай лыжаролернай трасе.

**Віцебск.** На сцэне роднага Коласаўскага тэатра адзначыў свой 80-гадовы юбілей бенефісам у драме "Бездань" народны артыст Беларусі Тадэвуш Кокштыс.

**Орша.** Датэрмінова ў 27-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў 2-й лізе ФК "Орша" заняў 1-е месца і завяваў пуцёўку ў першую лігу, дзе 3 гады боўтаецца ФК "Віцебск".

**Віцебск.** Міністр культуры РБ прадставіў калектыву драмтэатра імя Я. Коласа новага дырэктара Аляксандра Старых, які да гэтага прызначэння працаваў на "Белшыне".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Беларусы хочуць прылічыць да ліку святых Францыска Скарыну



■ Юлия Дыленок, БЕЛТА

**У Беларусі створаны міжнародны грамадскі аргкамітэт па кананізацыі Францыска Скарыны. Яго ўзначаліў кандыдат гістарычных навук, былы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка. Сакратаром аргкамітэта стаў вядомы літаратуразнаўца, гісторык, пісьменнік і журналіст, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс.**

Як паведамляе «БелаПАН» са спасылкай на Пятра Краўчанка, аргкамітэт рыхтуе аргументацыю на карысць кананізацыі Скарыны, якую затым перадасць прадстаўнікам грэка-каталіцкай царквы.

«Свецкія асобы ў гэтым пытанні супрацоўнічаюць з прадстаўнікамі той канфесіі, якая больш за ўсё ў гэтым зацікаўлена, такімі сёння з'яўляюцца грэка-каталікі. Затым мы будзем хадайнічаць перад кангрэгацыяй Ватыкана, якая займаецца пытаннямі кананізацыі», - распавёў Пётр Краўчанка.

Па словах Краўчанка, 20 гадоў таму ён прапаноўваў праваслаўнай царкве дапамагчы ў пытанні кананізацыі беларускага першадрукара. «Я асабіста некалькі разоў размаўляў на гэты конт з уладаром Філарэтам, прасіў яго хоць бы папярэдне разгледзець гэтае пытанне. Аднак справа не зварухнулася, таму што праваслаўная царква, на жаль, разглядае Скарыну як ерэтыка», - адзначыў Краўчанка.

Ён таксама паведаміў, што пытанне веравызнання Францыска Скарыны застаецца адкрытым.

«Ён не мог стаць сакратаром арцыбіскупа Віленскага, не будучы каталіком, - звярнуў увагу Краўчанка. - Францыск Скарына быў жанаты на ўдаве свайго сябра, каталічцы Маргарыце Адвернік. У канцы 1530 - пачатку 1540-х Скарына жыў у пражскім доме каноніка каталіцкага сабора Святога Віта, з якім сябраваў і працаваў. Менавіта ў гэтым доме трагічна загінуў сын Скарыны. Гэта кажа на карысць таго, што ў першадрукара былі цесныя сувязі з каталіцкім наваколлем».

«Акрамя таго, Скарына звяртаўся не толькі да праваслаўнай, але і да каталіцкай пацэрналістыкі. Невыпадкова і тое, што яго імя і імя яго сына - Францыск, а гэта адзін з святых ордэна бернардынцаў. У цэлым усё гэта даказвае, што Скарына быў дастаткова моцна звязаны з каталіцкім касцёлам.

Але па сваіх поглядах ён, вядома, бліжэй за ўсё да ўніятаў, якія гістарычна яшчэ не сфарміраваліся ў тыя часы», - адзначыў Краўчанка.

Ён паведаміў, што на мінулым тыдні міжнародны грамадскі аргкамітэт ужо звярнуўся да апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдзія Гуджэроцці з просьбай аб садзейнічанні ў працы па кананізацыі Скарыны.

У 2017 годзе будзе адзначацца 500-гадовы юбілей выхаду першай кнігі на беларускай мове - Святога Пісання.

# Кампанія “У абарону беларускіх балот” дазволіла пасьпяхова вырашыць пытанне аб асушэнні тэрыторыі шасці заказнікаў

**Кампанія “У абарону беларускіх балот” дазволіла паспяхова вырашыць пытанне аб асушэнні тэрыторыі шасці заказнікаў, паведаміла на прэс-канферэнцыі 6 лістапада каардынатар кампаніі Вольга Каскевіч.**

Нагадаем, паводле пастановы Савета міністраў № 794 ад 17 чэрвеня 2011 года “Аб некаторых пытаннях здабычы торфу і аптымізацыі сістэмы падахоўных прыродных тэрыторый”, у Беларусі планавалася забраць для здабычы торфу частку тэрыторыі васьмі заказнікаў — “Выганашчанскае”, **“Галубіцкая пушча”**, “Дакудаўскі”, “Азёры”, “Марочна”, “Вецярэвіцкі”, “Унухальскае-1” і перспектыўнага заказніка “Янка”.

Кампанія ў абарону балот стартавала 25 кастрычніка 2012 года і рэалізуецца пяцю грамадскімі экалагічнымі арганізацыямі: ГА “Экадом”, Цэнтрам экалагічных рашэнняў, таварыствам “Зялёная сетка”, ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны” і арганізацыяй “Чыстая вада”. Паводле слоў Каскевіч, у руху задзейнічана каля 150 чалавек.

“Мы вырашалі праблемы на мясцовым узроўні. Па шасці заказніках сітуацыя ўжо больш-менш вядомая і вырашана”, — адзначыла Каскевіч.

Аднак, як дадаў прадстаўнік кампаніі Канстанцін Чакалаў, “праблема захоўваецца, пакуль застаецца пастанова”. “Але, дзякуючы кампаніі, працэс быў моцна затармажаны”, — адзначыў ён.

Дзве тэрыторыі — Марочна і Выганашчанскае — за апошнія тры гады ўключаны ў Рамсарскі спіс водна-балотных угоддзяў міжнароднага значэння. Па іншых заказніках пытанне было таксама вырашана, сказалі эколагі.

“Па дзвюх тэрыторыях — **Галубіцкая пушча** і Унухальскае-1 — пытанне (аб асушэнні. — БелаПАН.) пакуль не ўзнімаецца, але мы працягваем праводзіць маніторынг кожнага з гэтых балот, падтрымліваем сувязь з мясцовымі жыхарамі”, — дадаў Канстанцін Чакалаў.

*Анастасія Саланові́ч, БелаПАН.*

# Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытанні законапраект аб альтэрнатыўнай службе

**10 лістапада, Мінск. Палата прадстаўнікоў прыняла сёння ў першым чытанні законапраект аб альтэрнатыўнай службе, а таксама адпаведныя папраўкі ў некаторыя законы.**

Першапачаткова прапаноўвалася, што грамадзяне без вышэйшай адукацыі павінны будуць праходзіць альтэрнатыўную службу на працягу 30 месяцаў, а выпускнікі ВНУ – 20 месяцаў. Цяпер тэрміны вырашана павялічыць да 36 і 24 адпаведна.

Як адзначыла сёння міністр працы і сацабароны Мар’яна Шчоткіна, законапраект прымаецца для таго, каб забяспечыць правы, закладзенае ў арт. 57 Канстытуцыі. “Абарона Рэспублікі Беларусь – свяшчэнны абавязак грамадзяніна краіны. Парадак праходжання воінскай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад воінскай службы або замена яе альтэрнатыўнай вызначаюцца законам”, – працытавала міністр.




Плануецца, што “альтэрнатыўшчыкі” будуць працаваць у сферы сацабароны, медустановах, лясной гаспадарцы і сферы ЖКГ. У законапраекце гаворыцца, што на час праходжання такой службы чалавека забяспечваюць памяшканнем, прыдатным для пражывання.

“Альтэрнатыўшчыкам” трэба будзе працаваць 48 гадзін (6 дзён) у тыдзень. Грашовае забеспячэнне плануецца ў памеры 150 працэнтаў ад найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва за два апошнія кварталы. У далейшым выплаты могуць павышацца, калі “альтэрнатыўшчык” будзе служыць без нараканняў.

*БЕЛТА*

# У Мінску пабіты тэмпературны рэкорд 60-гадовай даўніны

**Дзякуючы вельмі цёпламу надвор’ю ў Беларусі працягваюць абнаўляцца тэмпературныя рэкорды. 5-7 лістапада ўстаноўлены новыя абсалютныя максімумы дня ў маштабе ўсёй краіны.**

7 лістапада ранейшы рэкордны паказчык (17,4 градуса вышэй за нуль у 1997 годзе ў Брэсце) быў перавышаны на 3,1 градуса: у Драгічыне (Брэсцкая вобласць) сіноптыкі зафіксавалі 20,5 градуса, сведчыць тэмпературная карта рэсурсу meteoinfo.by.

Новыя рэкорды зарэгістраваны ў Брэсце — плюс 18,3 градуса, Гродне — 14 (13,9 у 1997 годзе), Магілёве — 11,8 (11,7 у 1996 годзе) і Мінску — 14,6 (12,5 у 1954 годзе). Днём раней у сталіцы быў пабіты рэкорд 84-гадовай даўніны: слупок тэрмометра падняўся да адзнакі 14,5 градуса (12,4 у 1930 годзе).

Пяцёрка абсалютных максімумаў лістапада ў Мінску цяпер выглядае так: плюс 16 градусаў 1 лістапада 1926 года, 15,8 градуса 17 лістапада 2002 года, 14,6 градуса 7 лістапада 2014 года, 14,5 градуса 6 лістапада 2014 года, 13,8 градуса 4 лістапада 1996 года.



З 8 лістапада на надвор’е ў краіне будзе ўплываць халодны фронт.

Варта адзначыць, што яшчэ два тыдні таму сіноптыкі рэгістравалі па начах новыя абсалютныя мінімумы.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# На Віцебшчыне рыбакоў пачалі штрафаваць за смецце

**На мінулым тыдні чацвёра рыбакоў, якія пакінулі пасля сябе на беразе возера Янава ў Полацкім раёне бутэлькі, пакеты і харчовыя адыходы былі аштрафаваныя інспектарамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

Кожны з парушальнікаў будзе павінен аплаціць 300 000 рублёў штрафу, акрамя таго ім прыйшлося прыбраць пакінутае смецце.

У новай рэдакцыі Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ўведзена норма для рыбаловаў-аматараў – не дапушчаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

*ННВ*

# За забруджванне навакольнага асяроддзя РУП ЖКГ “Докшыцы-камунальнік” выстаўлена прэтэнзія на 0,6 мільярда рублёў

**За 10 месяцаў 2014 года Віцебскім абласным камітэтам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя РУП ЖКГ “Докшыцы-камунальнік” прад’яўлена 4 прэтэнзіі пра пакрыццё ўрону, прычыненага навакольнаму асяроддзю, на суму 598 260 00 рублёў.**

Прадпрыемству тройчы выстаўляліся прэтэнзіі па фактах забруджвання водных аб’ектаў на агульную суму 571 652 000 рублёў і адзін раз - прэтэнзія за забруджванне атмасфернага паветра на суму 26 608 000 рублёў.

Забруджванне атмасфернага паветра адбылося ў выніку перавышэння нарматываў допушчальных выкідаў забруджвальных рэчываў ад стацыянарнай крыніцы № 0048 кацельні “Аўташкола” па аксідзе вугляроду ў 1,4 раза. Таксама РУП ЖКГ “Докшыцы-камунальнік” на падставе часткі 1 артыкула 15.48 Асобай часткі Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе накладання штрафу на суму 3 000 000 рублёў.

З прычыны неэфектыўнай працы біялагічных ачышчальных збудаванняў прадпрыемства ў Докшыцах і скіду забруджвальных рэчываў у саставе сцёкавых вод у раку Бярэзіна з перавышэннем допушчальных канцэнтрацый і за перыяд працы прадпрыемства без дазволу на адмысловае водакарыстанне, адбылося забруджванне воднага аб’екта. За гэта прадпрыемству прад’яўлена прэтэнзія на суму 565 134 000 рублёў.

Акрамя таго за парушэнне вадаахоўнага заканадаўства інспекцыяй складзена 8 адміністрацыйных пратаколаў, накладзена 8 штрафаў на суму 9 550 000 рублёў, з іх на юрыдычную асобу накладзена 6 штрафаў на суму 8 350 000 рублёў, на вінаватых службовых асоб накладзена 2 штрафы на суму 1 200 000 рублёў, паведамляе сайт аблкамітэта.

Таксама за парушэнне заканадаўства пра зварот з адыходамі на РУП ЖКГ “Докшыцы-камунальнік” інспекцыяй накладзены штраф на суму 3 900 000 рублёў.

*ННВ*

**ВНИМАНИЕ! УГОЛОВНЫЙ РОЗЫСК!**

# Просим сообщить информацию о лицах причастных к совершённому преступлению

Устанавливаются обстоятельства смерти новорожденного ребёнка, труп которого 02.11.2014 года обнаружен в овраге, расположенном между железнодорожным полотном и тыльной стороной дома 59 по пр-ту Победы в г. Витебске (район конечной остановки автобусов № 6, 10, 16, 18, 22). Труп телесных повреждений не имеет.

Просьба к гражданам, которые располагают информацией о лице, причастном к смерти вышеуказанного ребенка, либо о лицах женского пола любого возраста, имевших беременность, у которых в настоящее время признаки беременности отсутствуют, как и информация о рождении ребенка, а также женщинах имевших беременность и отсутствующих в настоящее время по месту жительства.

В непосредственной близости от места нахождения трупа обнаружен кухонный нож, изображённый на фотографии.



Просим сообщить информацию о лицах причастных к совершённому преступлению, а так же о лицах у которых имелся кухонный нож, аналогичный изображенному на фотографии.

Информацию просим сообщать по телефонам: 102; 8029 7116955; 80212 270802, 80212 606788

***Конфиденциальность и вознаграждение за значимую информацию гарантируем!***

# У Паставах прадпрымальнік ашукаў 24 чалавекі

4 лістапада Пастаўскім РАСК па матэрыялах ГБЭП РАУС узбуджана крымінальная справа па ч. 3 арт. 209 КК (махлярства, здзейсненае ў буйным памеры) у адносінах 21-гадовага індывідуальнага прадпрымальніка.

З траўня па верасень 2014 года малады чалавек ашуканскім шляхам, пад падставай прадаплаты за дастаўку дзвярэй і вокнаў, завалодаў грашыма 24-х мясцовых жыхароў на агульную суму 110 800 000 рублёў, паведамляе прэс-служба ЎУС Віцебскага аблвыканкама.

Паводле санкцый артыкула бізнэсмэна можа чакаць пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці ці без канфіскацыі.

*ННВ*

# “...А быў ён радасцю жыцця”

**У адным з вераснёўскіх нумароў раённай газеты “Кліч Радзімы” пад рубрыкай “Праблемы” быў змешчаны нататак журналіста Кацярыны Сосна “Перетварылі ў буралом”. У ім узнімаецца тэма адносін да зямлі, да навакольнага асяроддзя.**



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

На жаль, яны часта не станоўчыя. Яшчэ пануе безгаспадарчасць і беспарадак. Праблема тычыцца садоў, якіх у Шаркоўшчынскім раёне налічваецца 174 гектары. Частка плошчы раскарчавана і ўведзена ў севазварот, адзначае аўтар і засяроджвае ўвагу на тое, які выгляд мае выкарчаваная плошча ва ўрочышчы Скураты, адразу за рэчкай Бярозаўкай. “Тэрыторыя гэта парасла быллём і хмызняком у рост чалавека. І ўжо не першы год яна мае такі выгляд. Каля праезджай дарогі да могілак, а далей – да лесу. У цяжкую хвіліну да сваякоў прыязджаюць на могілкі і чужыя людзі, у лес ходзяць грыбнікі, і ўсе здзіўляюцца такім безгаспадарчым адносінам да зямлі. А мясцовыя жыхары шкадуюць … цяпер туды і нага чалавека не ступіць”, - піша аўтар нататка. Яна выказала тое, што ўжо некалькі год хвалюе мясцовых жыхароў вёскі Радзюкі і ўсіх, хто бачыць гэты беспарадак. Сад быў адзіным прыгожым месцам, дзе можна было адпачыць і душой, і сэрцам. А што больш? Стадыён, плануемы ў час Адраджэння вёскі, не пабудаваўся. Ёсць невялічкая плошча, якую называюць паркам. Калісьці побач там быў Дом культуры, дзіцячы садок – двухпавярховы будынак з добраўпарадкаванай тэрыторыяй. А цяпер ён стаіць з замураванымі вокнамі, здаецца, у ім цяпер склад мінеральных угнаенняў. Будынак пужае, ён, як постаць-прывід, дзе калісьці віравала жыццё і радасць.

Вось так паступова разбураецца ўсё, што калісьці было створана руплівымі рукамі людзей. Былы вадзяны млын на рэчцы Бярозаўцы (дарэчы, калі пабудавалі мост і змянілі яе русла, утварылася затока, якая зарастае трыснягом, пакрылася раскай) разбураецца. А ён з’яўляецца гістарычнай спадчынай. Дуб, якому хутка 130 гадоў, на былой сядзібе шляхцічаў Бароўскіх, ніяк не адзначаны. Затое ўздоўж асноўных дарог раёна з’явіліся “шэдэўры” з рулонаў сена, хто разумнейшы – з саломы.


Будынак былога млына паступова разбураецца... А мог бы яшчэ паслужыць людзям, хаця б у якасці прыдарожнай кавярні

Каго тут толькі няма! Нейкія сараканожкі-вусені, пеўні, фермы з кароўкамі і даяркай, дзесьці бачыла крыж, прымацаваны да рулонаў. Корм павінен захоўвацца пад навесамі, каб ён быў якасны для жывёлы. Мне самой даводзілася рассякаць зімой сякерай змерзлыя, шчарнеўшыя рулоны, і гэтыя тоўстыя пласты ішлі ў адыходы.

Трэба больш клапаціцца аб сваім родным. Не спадзявацца, што з’еду ў Маскву або Амерыку і там зараблю шмат грошай. Мы не патрэбныя нідзе, акрамя сваёй зямлі, на якой нарадзіліся і куды ўрэшце рэшт вернемся.

Верш “Сад” я напісала значна раней, чым з’явіўся нататак К.Сосна. Няхай яны прагучаць ва ўнісон і адыграюць станоўчую ролю ў вырашэнні закранутай праблемы.

## Сад

*(Быль)*

За вёскай з рэчкай хуткаплыннай
Калісьці быў прыгожы сад.
Квітнелі пругкія галіны –
У ім адпачыць быў кожны рад.
Трава між яблынь зелянела,
Тут быў зямны і светлы рай.
Плады да восені ў ім спелі,
Іх толькі паспявай, здымай.
Заўсёды йшлі ў сад свой людзі
Ствалы бяліць да Вялікдня.
Хавалі квецень у дым, як студзіць –
Аб ім усе клопаты штодня.
“Налiў” тут быў, ранет мядовы,
“Сікоры памяць” і шафран.
“Антонаўка” – смак адмысловы.
Хоць і на продаж – без заган.
Ламілася ад яблык веццe.
Той шчодрасці не перадаць.
Ішлі гады, нішто не вечна,
Як людзі, сад стаў паміраць.
Прасіў у людзей ён дапамогі,
Але не слухаў яго люд.
І толькі сонейка ў Бога,
Каб менш, вымальвала, пакут.
Яго б лячыць садовым варам,
Падсаду даць і ўзнавіць,
Ад шкодных бараніць пачвараў –
Удзячны сад прадоўжыў б жыць.
Пачаў у вярхах хтось прапаноўваць:
– Сад не патрэбен нам ані.
Усё спілаваць, павыкарчоўваць,
Не засталіся каб і пні.
Па звычцы доўга вырашалі:
Зямлю ў кадастар уключыць
Пад ворыва, і трыцікале
Закаласіць, як мае быць.
Ураджай збяром тут небывалы,
Бо ўрадлівая зямля.
Вышэйшыя наогул маўчалі,
У адказ на план ні “бэ”, ні “мя”.
Шмат тэхнікі ў сад нагналі,
Выходных не было ні дня.
Бульдозеры тут шчыравалі –
Усё падчыстую, ані пня.
А потым глебу ўзаралі,
Пустэча колькі год стаіць!
Ні каласка тут трыцікале.
Хмызняк ужо вырас і шуміць.
Убачаць – сэрца ўскалыхнецца
У рыбака, ці ў грыбніка.
Не думала, што сад зжывецца
Нядбайным кімсьці, і рака.
Дзе быў наш сад, стаю задумна,
Ішла там наша маладосць.
Не вынішчай усё лёгкадумна,
Што Бог дае, бо ты тут – госць.

*Людміла Ардынская*


Гэты дуб пасаджаны Гжэгажам Бароўскім (1856-1918) у 1888 годзе ў год нараджэння сына, будучага педагога, прафесара Віленскага ўніверсітэта Вацлава Бароўскага (1888-1961). Паставіць у гонар гэтага памятную таблічку – праблема, а вось канторскі туалет у такім маляўнічым месцы з'яўляецца не самым лепшым упрыгожваннем.


Вацлаў Бароўскі


Бярозаўка каля былога млына

## Партрэт

*(На сатырычнай хвалі)*

Дамоў вярнуўся ў пашане
Адзін паэт-правінцыял,
За лепшы твор дыпламаваны,
І з прэміяй – грашовы нал.
Узнагарод не ўсім ставала,
Што купідонамі завуць.
Але калі ж намінавалі,
Каня назад не павярнуць.
Ад шчасця быў на небе сёмым –
Без кукіша нос не дастаць.
Казаць, што быў ён невядомы
У раёне – нельга так сказаць.
Пісаў паэмы ён і вершы,
Здаўна стаў прозу друкаваць.
Заганарыўся ён: я – лепшы,
І ўзяўся ўсіх пераканаць.
Шэдэўры творыш, і ты – першы, –
Пачаў у тым хтосьці падпяваць,
І з думкай у галаве засеўшай,
Пайшоў выбітнасць здабываць.
За знакамітасць ён змагаўся
У кабінетах біты час.
Урэшце, хто “дабро” меў, здаўся,
Мясцовай прэсе даў указ:
Каб аб героі падрабязна
Больш напісаць і “раскруціць”.
Ды так яскрава і выразна,
Што лепшых і не можа быць.
Рэдактар спрабаваў пярэчыць,
Што ён не крытык – рэпарцёр.
У адказ пачуў: “Увековечить!
Печатать весь последний сбор!”
Не хопіць месца ў газеце
Аб людзях працы напісаць.
Культуру, спорт, хто ўсім асвеціць? –
Рэдактар браўся разважаць.
Сядзіць паэт наш на Парнасе,
Забыў пра сціпласць – у тым папрок.
А як жа той, хто лічыць шчасцем
У “раёнцы” друкаваць радок?
Сяброў не ўспомніў ані словам,
Што поруч у творчасці ішлі.
Аб тых ні гуку ў прамове,
Што на Парнас яго ўзвялі.
Паэт, не трэба ганарыцца
Ці замаўляць сабе піяр.
Павінен талент сам раскрыцца,
Калі ў цябе ёсць Божы дар.
Не будзе твор тады пыліцца,
І будуць усе яго чытаць,
Не заляжыцца на паліцах,
А творцу – без піяру знаць.

*Людміла Ардынская*




## Спроба крадзяжу электраэнергіі прывяла да смерці

**21 кастрычніка жыхар Мінска, знаходзячыся ў садовым таварыстве ў Пухавіцкім раёне, спрабаваў самавольна падключыць зварачны апарат да паветранай лініі электраперадач напружаннем 10 кВ метадам накіду дратоў.**

■ **А.С. Крывёнак,** *дзяржінспектар Энерганагляду*

Нягледзячы на наяўнасць папераджальных знакаў на апорах лініі электраперадач, ён збудаваў прыстасаванне ў выглядзе жэрдак даўжынёй 7 метраў з металічнымі наканечнікамі і спрабаваў дастаць ім да праваду лініі. Пры спробе ажыццявіць падключэнне грамадзянін трапіў пад напружанне і быў смяротна траўмаваны.

На жаль, нядбайныя, а часам і злачынныя паводзіны людзей прыводзяць іх да гібелі. Сваімі паводзінамі яны ператвараюць электрычнасць у страшную, разбуральную сілу, яшчэ раз нагадваючы усім, што кожны чалавек павінен адказна ставіцца да пытанняў электрабяспекі, берагчы і шанаваць сваё жыццё і здароўе.

Запомніце! Забараняецца самавольнае падключэнне электрапрыбораў да ліній электраперадач, пранікненне ў электрычныя падстанцыі. У адваротным выпадку гэта можа нанесці непапраўную шкоду здароўю, нават да смяротнага зыходу.

## Сацсеткі падвялі

**Міліцыя з дапамогай сацыяльных сетак вылічыла гамяльчаніна, які набраў крэдытаў у банках і вырашыў знікнуць на тэрыторыі Расіі. З заявай аб знікненні мужа ў Навабеліцкі РАУС Гомеля звярнулася жыхарка абласнога цэнтра. З яе слоў, муж у пачатку чэрвеня 2014 года сышоў з дому і не вярнуўся.**

■ **Алена Германовіч,** *БелаПАН*

Як паведамляе аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама, была распачатая крымінальная справа і пачаўся вышук зніклага. Міліцыя шукала мужчыну, у тым ліку і ў сацыяльных сетках. Аказалася, зніклы зарэгістраваўся ў сетцы «ВКонтакте» пад нікам «Віктар». Пры наведванні яго старонкі было ўстаноўлена, што ён жыве ў Смаленску. На старонцы быў пазначаны яго нумар тэлефона. Пры вывучэнні інфармацыі аб гэтым абаненце сышчыкі высветлілі, што ён неаднаразова ажыццяўляў злучэнні з абаненцкім нумарам жонкі.

Падчас паўторнага апытання заяўніца патлумачыла, што яе муж раней быў індывідуальным прадпрымальнікам, займаўся вырабам мэблі. Для закупкі абсталявання ўзяў вялікія крэдыты ў банках. У наступным яго бізнэс прагарэў, з-за чаго ён вырашыў паехаць у Расію на заробкі. У наступным ён пацвердзіў, што наўмысна выехаў у РФ, каб зарабіць грошай для пагашэння даўгоў перад банкам. А яго жонка, звяртаючыся ў міліцыю, спадзявалася на тое, што мужа не знойдуць і прызнаюць зніклым без вестак. Даведку аб гэтым яна збіралася аднесці ў банк для атрымання адтэрміноўкі.

## МНС інфармуе

**на 11.11.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 942;
Гібель людзей – 99, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 30;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –750.87 млн. руб.

# На Пастаўшчыне прайшоў фестываль арганнай музыкі

**Другі музычны фестываль «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны» прайшоў у мінулыя выходныя ў касцёлах Пастаўшчыны.**

У ім прынялі ўдзел народны артыст Беларусі кампазітар Ігар Алоўнікаў, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Вольга Падгайская, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, іншыя выканаўцы.

Старадаўнія арганы гучалі ў Паставах, Лынтупах, Камаях, ну і, вядома ж, у Лучаі.

Фестываль прайшоў пры падтрымцы Пастаўскага райвыканкама.

*Зміцер Лупач*


За арганам Кацярына Мікалаева

## Беларусы змогуць 90 дзён знаходзіцца на тэрыторыі Расіі без пастаноўкі на міграцыйны ўлік

**У Саюзнай дзяржаве будзе павялічаны тэрмін знаходжання грамадзян Беларусі на тэрыторыі Расіі і грамадзян Расіі ў Беларусі. Аб гэтым сёння на адкрыцці экспертна-медыйнага форуму «Пазнаючы Саюзную дзяржаву: ад Брэста да Уладзівастока» паведаміў статс-сакратар - намеснік міністра замежных спраў Расіі Рыгор Карасін, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Рыхтуецца да падпісання расійска-беларускі пратакол аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у міждзяржаўнае пагадненне аб роўных правах грамадзян на свабоду перамяшчэння, выбар месца знаходжання і жыхарства на тэрыторыі дзяржаў - удзельніц СД.

«Пратаколам прадугледжваецца ўстанавіць новы, больш доўгі тэрмін знаходжання нашых грамадзян на тэрыторыі Саюзнай дзяржавы без пастаноўкі на міграцыйны ўлік - 90 дзён. Гэта факт», - адзначыў Рыгор Карасін. На гэты момант беларусы, напрыклад, могуць знаходзіцца на тэрыторыі Расіі без пастаноўкі на ўлік 30 дзён.

Прадстаўнік МЗС Расіі праінфармаваў, што расійскім знешнепалітычным ведамствам сумесна з Федэральнай міграцыйнай службай і іншымі ведамствамі прапрацоўваюцца пытанні аб стварэнні адзінай візавай прасторы. «Усё гэта з'яўляецца значнай асновай для развіцця яшчэ аднаго звяна інтэграцыі – адзінай гуманітарна-турыстычнай прасторы як унутранай, так і з выхадам на замежнага спажыўца», – падкрэсліў Рыгор Карасін.

Сёння ў Маскве адкрыўся экспертна-медыйны форум «Пазнаючы Саюзную дзяржаву: ад Брэста да Уладзівастока». У ім прымаюць удзел больш як 60 беларускіх і расійскіх экспертаў і журналістаў, якія абмяркоўваюць шляхі павышэння турыстычнай прывабнасці СД.




## Мясніковіч: Зарплата бюджэтнікаў у Беларусі ў 2015 годзе будзе расці хутчэй за тэмпы інфляцыі

**Заработная плата работнікаў бюджэтнай сферы ў Беларусі ў 2015 годзе будзе расці хутчэй за тэмпы інфляцыі. Аб гэтым на сустрэчы дэпутатаў з прэм'ер-міністрам, а таксама кіраўніцтвам міністэрстваў эканомікі і фінансаў, прадстаўнікамі Нацыянальнага банка Беларусі заявіў сёння кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

«Што датычыцца заработнай платы бюджэтнікаў, то яна будзе прырастаць крыху вышэй, чым інфляцыя. Інакш кажучы, будзе павелічэнне», – адзначыў кіраўнік урада, адказваючы на пытанне дэпутата.

У цэлым, паводле слоў прэм'ера, у 2015 годзе суадносіны сярэдняй заработнай платы бюджэтнікаў і сярэдняй заработнай платы па краіне некалькі палепшыліся. «Суадносіны вырастуць да 75,1 працэнта, – удакладніў Міхаіл Мясніковіч. – Дадатковы рост павінен быць забяспечаны за кошт бюджэтных асігнаванняў і далейшай аптымізацыі расходаў, у тым ліку неэфектыўнай колькасці».




ЗАРПЛАТА В ПОСЛЕДНЕЕ ВРЕМЯ СТАЛА НАПОМИНАТЬ СДАЧУ

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»

## ПАНЯДЗЕЛАК, 17 лістапада

### 1 Беларусь

**06.00**, **07.20**, **08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.25** Новости.
**07.05**, **08.05** Новости экономики.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Документальный цикл «Звездная жизнь» (Украина). «Как забывали звезд».
**11.00**, **13.00**, **16.00** 90 секунд.
**12.10** Мелодрама **«Удиви меня»** (Россия).
**13.50**, **15.50** Мелодрама **«Мой любимый гений»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**15.15**, **18.40** Новости региона.
**17.30** Белорусское времечко.
**19.20** Арена.
**19.40**, **00.05** «Зона Х». Криминальные новости.
**20.00** Форум с Дмитрием Бочковым.
**21.00** Панорама.
**21.45** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**23.50** Актуальное интервью.
**00.45** День спорта.
**00.55** Документальный цикл «Звездная жизнь» (Украина). «Папа на каблуках».

### ОНТ

**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.10** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «Великая война. Уходили добровольцы…».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** **«Леон»**.
**00.45** Ночные новости.

### 2 Беларусь

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Сериал **«Сашка»** (Украина).
**10.05** Телебарометр.
**10.40** Под грифом «Известные».
**11.10** Сериал **«Мама – детектив»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**13.05** Сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**15.35** «Comedy Баттл. Без границ» (Россия).
**16.40** Сериал **«Сашка»** (Украина).
**17.50** Сериал **«Такси»** (Украина).
**18.50** Сериал **«Универ»** (Россия).
**20.55** Тело человека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** Сериал **«Виртуозы»** (Великобритания).
**22.45** Боевик **«Кулинар-2»** (Россия-Украина).
**23.50** Хочу в телевизор!
**23.55** Сериал **«Такси»** (Украина).
**00.25** Комедия **«Хочу вашего мужа»**

### СТВ

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.45** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.40** «Семейные драмы».
**12.35** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Великие тайны Вселенной».
**15.40** «Другая страна». «Живели, Сербия?».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Странное дело».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Поющие города».
**20.20** **«Сотовый»**. США - Германия.
**22.10** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».

### Белсат

**07.00** ПраСвет
**07.35** Форум (ток-шоу). Незалежнасць – гэта...
**08.15** Два на два. Сённяшняя Украіна вачыма беларусаў
**08.50** Зона «Свабоды»
**09.25** **«Mad Men. Утрапёныя-II»**, серыял
**10.15** «Культуры супрацiву», дак. фільм
**11.00** ПраСвет
**11.35** Два на два. Сённяшняя Украіна вачыма беларусаў
**12.10** Эксперт
**12.35** Зона «Свабоды»
**13.10** **«Гётэ!»**, маст. фільм, Нямеччына
**14.55** «Культуры супрацiву», дак. фільм,
**15.40** **«Mad Men. Утрапёныя-II»**, серыял
**16.30** «Рука цырульніка», дак. фільм
**17.20** **«Час гонару»**, серыял
**18.10** Над Нёмнам
**18.30** Навіны
**18.40** Агляд медыяў
**18.45** Каментар эксперта
**18.50** Форум. Незалежнасць – гэта...
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Dэвайс
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21.55** Асабісты капітал
**22.15** Рэмарка
**22.40** **«Гётэ!»**, маст. фільм
**00.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**00.40** Форум. Незалежнасць – гэта...
**01.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**01.55** Аб'ектыў
**02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**03.50** Асабісты капітал
**04.10** Рэмарка

ПАНЯДЗЕЛАК, 17 лістапада

